БЕЛАРУСКАЯ
КООПЭРАТЫЎНАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 2.

Якуб Косаўскі.

# Для бліжніх

Драма ў 4-ох дзеях.

*(З украінскай на беларускую мову тлумачыла Г. Ш.)*



Вільня . . . . . . . . . . . . 1933 г.

Выданьне „Самапомачы“.

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

МАРЫСЯ ВАРЦІХА, каля 40 гадоў.
МАКСІМ другі ейны мужык.
АЛЯКСЕЙ, дзяцюк — Марысіны дзеці ад першага мужыка.
СЬЦЯПАНКА . . . — Марысіны дзеці ад першага мужыка.
ЯНКА . . . . . . . — Марысіны дзеці ад першага мужыка.
АХРЭМ, ДЗЯДУЛЯ, каля 70 гадоў.
НАСЬЦЯ, ягоная ўнучка, дзеўка.
ТРАХІМ, Ахрэмаў паробак, стары, крыху глухаваты.
ГАЛАВАТЫ, войт.
ЗЬМІТРОК, ягоны сын, дзяцюк, апрануты пагарадзкому.
ЯНКЕЛЬ карчмар, 50 гадоў.
РАДЗЮК. селянін, 50 гадоў.
РЫГОР, дзяцюк, Аляксееў таварыш. Хлапцы, дзяўчаты, дрывасекі ў лесе, сяляне.

## ДЗЕЯ I.

*(У Марысі ў хаце. Абстаноўка небагатая На стале ляжаць зложаныя кніжкі).*

### ЗЬЯВА I.

Марыся *(сядзіць ля вакна і прадзе)*: Не дарма кажуць, што як чалавек у маладых гадох не бядуе, дык на старшыя гора зазнае. Пражыла я з сваім Іванам у дабры і згодзе. Усе людзі зайздравалі, як мы жылі ў дастатках і любові. Ды згінуў на вайне. Колькі я ўжо сьлёз выліла ды колькі гора без яго зазнала. Горка было самой з дзеткамі ды цяпер яшчэ цяжэй з гэтым п'яніцай. І нашто я сьвет сабе вязала? Дзе мае вочы былі?... І людзі, адны радзілі, а другія адраджывалі, а дзядзька Ахрэм дагэтуль гневаецца. І ўсё мне здаецца, што Іван з тамтага сьвету мяне праклінае... Ой, ня трэба было мне гэтага замужства, ня трэба. Ды што-ж, — калі гляну, бывала, на тую дробную дробязь, што я пачну з імі ў сьвеце?... Аляксей ужо большы, ды нейкі слабаваты ўдаўся. Цэлы дзень над тымі кніжкамі сядзеў-бы. Ні сілы ў яго, ні здароўя. А гаспадара трэба! Яшчэ каб мужык быў, як другія, і дзеці яго за бацьку мелі-б і людзі шанавалі-б. А так... Да работы ніякай ня возьмецца, а цэлы Божы дзень у карчме куты выцірае. Яшчэ нячыстая мяне пад'юдзіла палавіну гаспадаркі апісаць. Мая яна. Думаю, хай сабе, хто захоча працаваць на чужых дзяцей? А тут

табе й помач. Як гляну на садок, што нябошчык загадаваў, дык сьлёзы за горла душаць. Марнее ягоная праца... Пяць год спыняў мяне дзядзька Ахрэм ад замужства, а я дыкі не паслухала... Мне ўсё нябошчык Іван становіцца прад вачыма і пытае, нашто я скрыўдзіла дзяцей... О, даруй мне, Госпадзе!

ЗЬЯВА 2.

(*Уваходзіць Радзюк*).

Радзюк: Слава Богу!

Марыся: Слава на векі!

Радзюк: Адна ў хаце? Пэўна мужчыны паехалі ў лес? Бачу сьлед з панадворка.

Марыся: Дзе там у лес. Яно трэба было-б і ў лес, няма чым тапіць у печы. Павёз крыху збожжа ў места. Жыд падаў за доўг. Набраў, набраў п'яніца ў яго, а я нічога ня ведала. Сядайце.

Радзюк (*сядае*): Нашто-ж вы яму так пазваляеце? Дый Аляксей ужо ў гадох.

Марыся: Што я зраблю, суседзе? Сама завініла, што ўвяла п'яніцу на гаспадарку. Здавалася мне, што раблю добра. Гаспадарка якая была, дык была, але ўсё патрабавала гаспадара, ды ён вось як гаспадарыць... Перад людзьмі мне стыдна. Спачатку я хваліла, абманывала людзей, ды людзі не сьляпыя, пабачылі, пазналі.

„Вось Марыся выйшла“ — гаварылі і гавораць. Яшчэ на няшчасьце палавіну гаспадаркі запісала. Хацела яму ніўку даць, гэну, пад лесам. Але ўпёрся: „як твае дзеці падрастуць, я ў полі паміраць ня буду“. — І паслухала. Цяпер толькі мучуся і дакараю сябе за сваіх дзяцей.

Радзюк: А праўда, а гдзе-ж дзеці?

Марыся: Аляксей гдзесь на двары, ці

можа пайшоў куды, Сьцяпанка паехаў з ім у места, а наймалодшы ў школе.

Радзюк: Вы Аляксея ажанілі-б. Можа ён, як ажэніцца, возьме ў рукі старога, не дазволе так руйнаваць працу.

Марыся: Ды ён і так, як можа, стараецца. А жаніць яго... аб гэтым я йшчэ ня думала. Ды як у хату браць жонку? На такую бяду?! Я й сама не хацела-б. Яшчэ дзякаваць Богу, што ён разумны ды цярплівы ўдаўся, заўсёды ўступіць войчыму. Ня хоча сваркі ў хаце, дый мяне ўважае. Добрае дзіця, але беднае праз мяне. Ён можа праз тую грызьню й здароўя ня мае. Ды што й казаць, пры такіх дастатках...

Радзюк: Шкада мне вас, Марыся, з дзеткамі. А Максіму, відаць, нічога не паможа. Ён гатоў сваю палавіну прадаць, ды гдзесь заваліцца пад лаву.

Марыся: Ой, гэтага-ж я найбольш і баюся. У людзей усём іначай. Узяць Білюка: і да дзяцей прыхінуўся, акуратны, шануе жонку й дзяцей. Ніхто й не падумаў-бы, што гэта другі муж. А мой усё адным збывае: „я на тваіх дзяцей працаваць ня буду“. — Вось сяньня ўстаў рана: „я паеду ў места“, — кажа. Пытаюся, чаго, а мне ўжо суседзі раней сказалі, што Янкель падаў яго за доўг, а я ўдаю, што нічога ня знаю. Кажа, што павязе прадаваць збожжа. А тут хлопцы йшчэ перад Сьвятам трохі абмалацілі ды паставілі ў каморы. Кінулася я да яго і кажу: „Ня дам ані зярняці. Напіў у жыда, а цяпер з майго ды маіх дзяцей поля хлеб будзеш прадаваць!... Недачаканьне тваё!“ Успакоіўся ён, ужо не паедзе. Выйшаў на двор, а мы з Аляксеем радзімся, што рабіць. Жыд памалу загаспадарыцца на палове гаспадаркі. „Няхай вя-

зецъ, — кажа Аляксей, — мы з хлебам яшчэ нейк дамо сабе раду. — І павёз. І думаеце, што на гэтым будзе канец?

Радзюк: Вы прыкажэце жыду, каб больш яму ў доўг не даваў.

Марыся: Ня слухае, я ўжо казала.

Радзюк: А як Ахрэм? Нічога вам не парадзіць?!

Марыся: Ды гдзе там. Загневаўся яшчэ ад таго часу, як я выходзіла замуж. Не хацела яго паслухаць, дык цяпер у вочы яму стыдна глянуць.

Радзюк: А... ня ведаю, ці праўда, ці не, чуў я... так, мае дзяўчаты гавораць сабе, што ваш Аляксей штось на хутар замышляе, да Ахрэмавай унучкі.

Марыся: Гэтага ня ведаю. Здаецца, што ён туды нават не паказваецца. Ды гдзе-б яго на такое багацтва хацелі.

Радзюк: Ня знаю, чуў так. Ды дай яму, Божа! Там ёсьць на чым жыць. І Насьця нічога сабе дзяўчына.

Марыся: Хацела-б я яго аддаць у прыймы. Але, калі-б у такое мейсца... Няхай-бы не глядзеў на такую бядноту.. Вось нядаўна клікаў паліцыянт нясьці падатак. Плаці, а чым?!!- Узноў трэба будзе жыць травой.

Радзюк (*устае*): Ну, пасядзеў трохі, пайду ўжо.

Марыся: Пасядзеце! А зараз Максім з места над'едзе. Можа вы яго як славамі напомніце.

Радзюк: Я да Аляксея. Можа-б ён заўтра памог мне каля машыны. Малаціць хачу.

ЗЬЯВА 3.

Янкель (*уваходзіць*): Памажы Божа!

Радзюк: А вось і Янкель! Што-ж нам новага скажа.

Я н к е л ь: А гдзе-ж ваш Максім, Марыся?

М а р ы с я: Нашто вам Максім?

Я н к е л ь: Маю да яго інтэрас.

М а р ы с я: Скажэце мне, гэта ўсё роўна.

Я н к е л ь: Не, мне гаспадара трэба.

М а р ы с я (*з злосьцяй*): Ой, зрабіў ты, Янкель, з яго гаспадара. Бадай-жа ты са сваімі бахурамі так дагаспадарыўся, як ён гаспадарыць. Ты думаеш, што я заўсёды з дзяцьмі буду на п'яніцу і на цябе працаваць?

Я н к е л ь: Ну, вы, Марыся, ня злуйцеся! Калі-б вы далі камусь сваю працу, дык вы не дамагаліся-б? Я маю дзяцей. Я й так яшчэ добры, што так доўга чакаю.

М а р ы с я: Дык, я-ж нічога. Кожны чалавек мае права жыць. Але нашто ты яму даеш на павер. Ты-ж знаеш, які з яго гаспадар?

Я н к е л ь: А чаму-ж я не магу даваць? У мяне ўсе роўныя. Я Максіма знаю, дык і даю.

М а р ы с я (*ўстае*): Слухай, Янкель! Сяньня ён павёз збожжа ў места на сплату доўгу. Але гэта апошні раз! Разумееш?! — Больш, каб ты мне не дапамінаўся аніякіх даўгоў!

Я н к е л ь: Хіба-ж я вас за доўг чапаю, або прашу каб бралі на павер? Але свайго я ўсё-ж не дарую.

М а р ы с я (*пагражае, у яе ў руках прасьніца*): Ой, недачаканьне твае, каб табе дасталася праца майго бацькі!

Я н к е л ь: Ну, я сам не патрабую, але людзі могуць забраць. А грошы ўсе аднолькавыя.

М а р ы с я: А ты, жыдзюга! — Каб ты да рана не даждаў. Ты йшчэ будзеш у маей

хаце ў вочы наругацца? — Марш мне з хаты! (*бяжыць з прасьніцай за Янкелям, які ўцякае з хаты. На двары чуваць браханьне сабак*).

Янкель: Ну, ну, пабачым!

ЗЬЯВА 4.

Аляксей: (*уваходзіць*): Чым вы яго так пачаставалі, што ўцякаў як апараны.

Радзюк: Ды вось тут жыдзюга па доўг прыходзіў да войчыма, а маці крыху пагразіла.

Аляксей: Амаль не зваліў мяне з ног у парозе.

Марыся: Няхай знае, як мяне чапаць у хаце. І навошта гэтая карчма ў вёсцы?! Чаму ня зьявіцца якая збавенная душа, каб людзей навяла на дабро?!

Аляксей: Пачакайце, мама! Не ўдалося раз перагаласаваць, можа ўдасца на другі год. Я ня гэтулькі віную жыда, як людзей. Жыд хоча жыць. Як людзі даюць зарабляць, то чаму не зарабіць. Толькі зарабляць трэба чэсна, а ня дзерці ліхву з цёмных людзей. Гандаль ня ёсьць справай нясумленнай. Гандляваць можа кожны, а тым больш жыды, каторыя маюць да гэтага ўпадабаньне, але гандляваць а шахраваць — гэта вялікая розьніца. А ўжо гэтыя корчмы, гэта наша найбольшая балячка!

Радзюк: Праўду кажаш, Аляксей! Калі-б людзі мелі розум, ня трэба было-б і галасаваць. Ды што парадзіш? Куды Галаваты, туды амаль ня цэлая вёска.

Марыся: І зашто п'юць? Такія цяжкія часы. Гдзесь па другіх сёлах бяз гэтага абходзяцца.

Радзюк: Адны п'юць, бо замнога маюць, а другія... А куды дзяюцца пакражы?

Марыся (*да Аляксея*): Вось ізноў старайся грашэй! Падатак казаў нясьці.

Аляксей: А, Божа! Калі-ж ужо абагнацца ад гэтых падаткаў.

Марыся: А тут яшчэ й бацька ані думае апамятацца.

Радзюк: Ужо мне часісьці. Я з просьбай да цябе, Аляксей, прышоў. Можа-б ты заўтра памог мне каля машыны.

Аляксей: Добра! Мы абодва з Сьцяпакам можам прыйсьці, як у час прыедуць з места.

Радзюк: Эй, не! Хлапца заўтра не бяры. Хай адпачыне. Сяньня цэлы дзень намерзьнецца. Гэта-ж яшчэ дзіцё.

Марыся: Бедачына, ды яшчэ паехаў лёгка апранутым.

Радзюк: Бывайце здаровы, ды войчыма вазьмеце крыху ў рукі. (*Выходзіць*).

Марыся (*ідзе за ім*): Ідзеце здаровы (*выходзіць*).

Аляксей (*сам адзін, сядае каля стала і хвілю думае*): Тры гады ўжо мінае, як быў я на хутары, як з Насьцяю гаварыў шчыра. І дагэтуль ніяк не магу яе выкінуць з сэрца. Здаецца забуду на хвілю свае вясёлыя дзіцячыя гады, забуду хутар, Насьцю, ды толькі на хвіліну. Ці праўда гэта, што Трахім мне казаў? Шкадуюць мяне. Насьця сумуе. Бачу, што яна зьмянілася... Ці можа з часам сталася пышнай з свайго багацтва і ўроды. Хацелася-б мне з ёй шчыра пагаварыць, ды не адважуся ад таго часу, як дзед Ахрэм пасварыўся на матку і так дрэнна назваў. Усё было-б добра, каб ня выходзіла мама замуж. Дык што-ж. Прыйдзе час, што трэба будзе забыцца... Ня туды мая дарога. Там знойдзе сабе шчасьце нейкі багацейшы сын, а ня

мне бедаку працягіваць туды рукі, дзе для мяне за высака. Палюбіў я яе і дагэтуль люблю, ды трэба змагацца розуму з сэрцам. Хаваюся з сваею любоў'ю перад усімі, і яна сама ня знае, з якім я сумам гляджу туды, гдзе хутар стаіць над ракою. Трахім гаварыў, а я чую сэрцам, што мая яна ніколі ня будзе. Да багацтва трэба сілы, здароў'я, а я ці ўнясу з сабою на хутар шчасьце?!! Не, ніколі! Трымайся, казача! У цябе маці, што каіцца за тваю правіну, браты яшчэ малыя і народная праца... якая яна вялікая, сьвятая. А там пра ўсё трэба забыцца і толькі мроіць аб сваім шчасьці.

### ЗЬЯВА 5.

(*Уваходзіць Янка з торбачкай з кніжкамі, пасьля — Рыгор*).

Аляксей: Ты ўжо са школы, Янка? А зьмерз?

Янка: Крыху. Ня шмат

Аляксей: А шмат сяньня навучыўся ў школе?

Янка: Ды крыху навучыўся.

Аляксей: Ну, распраніся ды пагрэйся. Мама зараз табе дасьць есьці. Незадоўга Сьцяпанка з татам прыедуць, і булку такую вялікую прывязуць.

Янка: А-яй, прывязуць?!!

Аляксей: Пабачыш.

Янка: Як ты паедзеш, то прывязеш, а Сьцяпанка грашэй ня мае. — А мне Міколa такія прыгожыя рабіць саначкі. (*Зьбіраецца йсьці*).

Аляксей: Чакай, куды бяжыш? Пагрэйся трохі.

Янка: Ня маю часу. Я толькі пагляджу на санкі (*выбягае*).

Рыгор (*увакодзіць*): Здароў, Аляксей!

Аляксей: Здароў! Ты гдзе бываў гэтымі днямі, нідзе цябе ня было відаць?

Рыгор; Трохі быў нездаровы. Прастудзіўся, ці што. Ты гэтакі, што й не адведаеш мяне.

Аляксей: я ня знаў, а так мне хацелася з табою пабачыцца.

Рыгор: Што там, навіна якая?

Аляксей: Сядай, раскажу! (*Рыгор сядае*). Знаеш, я бачыў Валашчука.

Рыгор: Ты быў у месьце?

Аляксей: Не, ён сюды, да вучыцеля прыяжджаў. Па дарозе сустрэў я яго. Пытаўся, чаму не закладаем коопэратывы. Я яму казаў, што няма каму. Самі добра ня знаем, як яе залажыць. Вось ён мне трохі расказаў, а пра рэшту — кажа—з статуту даведаешся. І даў мне статут.

Рыгор: Ну, і як ты думаеш? Будзе што з гэтага.

Аляксей: Папрабуем. Чым вальней, тым трывалей. Трэба разьведаць паміж людзьмі, ці будуць прыхільныя. А тымчасам, казаў Валашчук, што коопэратыўны курс адбудзецца ў месьце.

Рыгор: А ты паехаў-бы?

Аляксей: Чаму-ж. Курс доўга трываць ня будзе. Дык вось нам наперад трэба людзей згуртаваць. Шмат іх адразу ня будзе. А пасьля — пастарацца аб хаце пад краму і раздабыць грошы. Але гэта ўжо пасьля. А на разе як найбалей сябраў. Як думаеш штат іх у нас знойдзецца?

Рыгор: Ці ты ня знаеш, як у нас цяжка да чагось добрага дайсьці?

Аляксей: Гэта толькі зразу так. Я знаю, што супроць бяды многа людзей ста-

не, а каму яна тут у вёсцы не дапякла? Давясны маем час разгледзіцца і падладзіць грунт. Вельмі дрэнна, што нас толькі двух такіх, на якіх спадзе ўвесь цяжар, бо маем ахвоту служыць для агульнага дабра. А колькі-ж у нас ёсьць моладзі, ды ўсе якіясь няцікавыя. Некаторыя маглі-б многа памагчы і зрабіць, але нeяк ухіляюцца.

Рыгор: Адны нечага баяцца, а другія раўнадушныя, а іншыя высьмейваюць нас і стаяць воддаль. Вось як войтаў Зьмітрок. Вырас, як пустазельле на полі: ні розуму, ні сэрца

Аляксей: Калі-б ён адзін, а то яшчэ цэлая шайка з ім.

Рыгор: Напіцца, пагуляць, пабіцца, ды дзяўчат абымаць — вось і ўся яго праца. Пабачыш, як ён скора прагуляе бацькаўскае дабро. На цябе то ён чортам глядзіць. Хваліцца, што бяз кніжак і газэт ён разумнейшы ад цябе.

Аляксей: Ды Бог з ім. Дурному й Бог выбачае. Ды мы на такіх, як Галаваты, рахаваць ня можам. Мы мусім раздзяліць вёску на дзьве часткі і пагутарыць з кожным гаспадаром.

Рыгор: А можа гэта й нядобра, Аляксей, заўгадзя выступаць перад людзьмі з коопэратывай. Даведаецца Янкель і яго прыбочнікі. А ён іх мае. Адны самахвоць у яго, другія паняволі. Вось Тарашчук, чалавек добры, здаецца, і нязусім цёмны, а вінен Янкелю грошы. Ці пойдзе ён за намі? А такіх ёсьць многа ў сяле. Каб нам не загарадзілі дарогі.

Аляксей: Тым лепш для нас. Прыгледзімся добра хто з намі, а хто проціў. З часам, то ўсё йнакш будзе. Пабачыш! Няхай і Тарашчук. Калі даведаецца, да чаго імкнецца коопэратыва, першы будзе з намі.

І ведай, што тыя ўсе, каго жыдоўская ліхва наўчыла і вучыць, будуць першымі сябрамі ў коопэратыве. Наш селянін датуль не навучыцца, пакуль ня дасца бяда ўзнакі. А тыя, пра каторых ты кажаш, што яны «самахвоць» з Янкелям, ня вельмі для нас страшны. Страшней і сумней толькі тое, што яны цёмныя і сьляпыя, ня бачаць сваей будучыні і сваіх дзяцей... А ўрэшце, хоць-бы ня ведаю што— паборымся!

Рыгор: Няхай будзе патвойму. Дык зараз бярэмся да справы, яшчэ сяньня!! Бо ў мяне аж кіпіць. Ты знаеш, як я люблю барацьбу?!

Аляксей: Я бяруся абыйсьці гэны бок за ракою, а ты тут. Так?... Там, здаецца, ёсьць больш несьвядомых і тых, што «самахвоць»?

Рыгор: Я згаджаюся абы гэзе.

Аляксей: А кожнага, з кім перагаворыш, запішы ў хаце, ці ён з намі, ці процiў нас. Перагаварывай усюды пры нагодзе ды асьцярожна, каб ня выглядала, што табе залежа на коопэратыве, бо знаеш, што людзі скажаць...

## ЗЬЯВА 6.

(*Уваходзіць Марыся*).

Аляксей: Вось і мама. Мама, я выйду трохі ў вёску.

Марыся: Ты лепш, сынок, ня йшоўбы. Прыедуць з места, зьмерзнуць, трэба будзе даць коням есьці, напаіць.

Аляксей: Я не пайду далёка. Пабачу, як будуць ехаць. А есьці коням я прыгатаваў.

Рыгор: Бывайце здаровы, цётка!

Марыся: З Богам!

(*Выходзяць Рыгор і Аляксей*).

Марыся (*сама, скідае кажух, сядае*

*прасьці*): І сьцюдзена на дварэ. Жорсткая сёлета зіма. Яшчэ горшы мароз бярэ нанач. Каб хоць доўга ня бавіліся ў месьце. Беднае дзіця, намерзьнецца. І ўсё праз гэтага п'яніцу,.. Ох, які ён мне стаў ненавісны... Можа я гэтаю ненавісьцю і грашу. Гэта-ж мой муж. Дык што-ж, калі я ня ўсілах пакарыцца лёсу. Дзяцей шкада. І чым далей, тым большая расьце да яго ненавісьць... Здаецца, каб ня піў, дык можа і да работы якой узяўся-б, а то, як цьвярозы, дык толькі думае, як-бы зайсьці да карчмы. (*Уваходзіць Янка*). Ты толькі са школы Яначка?

Я н к а: Не, я ўжо даўно прышоў. Да Мікалая хадзіў. Ён мне санкі робіць.

М а р ы с я: Ну, дык сядай і вучыся, што маеш задана. Ня выходзь нікуды, на дварэ сьцюдзена.

Я н к а (*разглядаецца, бярэ кніжку і чытае. Па хвілі*): Мама, сяньня вучыцель казаў, што была вайна.

М а р ы с я: Была, сынок.

Я н к а: І людзей на ёй забівалі? Праўда, што нашага тату забілі? Я казаў вучыцелю, што майго таты так-жа няма з вайны.

М а р ы с я (*ўздыхае*): Так, дзіцятка, так!

Я н к а: А гэты тата, дык ня мой, праўда?

М а р ы с я: Не, сынок, гэта твой тата, але другі.

Я н к а: А каторы лепшы?..

М а р ы с я: Абодва добрыя. І гэтага трэба любіць і за гэнага маліцца.

Я н к а: А чаму-ж гэты тата такі злосны, як нап'ецца? — А Міколы тата ня п'ець і такі добры, заўсяды мяне ласкае.

М а р ы с я (*На дварэ чуваць званок*). Вось, ужо й прыехалі! Дзякаваць Богу, што да ночы не затрымаліся.

С ь ц я п а н к а (*уваходзіць*): Аляксея няма?... Трэба выпрагчы коняў. Я так зьмерз.

М а р ы с я: Ты будзь у хаце, я сама выпрагу. А гдзе бацька?... (*Бярэ кажух*).

С ь ц я п а н к а: А вось, мы толькі зьвярнулі на панадворак, а ён зьлез з саней і пайшоў гдзесь у вёску.

М а р ы с я: Я знаю гэта «гдзесь у вёску" Пайшоў п'яніцкі доўг аддаваць (*хутка выходзе. Сьцяпанка трэць рукі. За хвілю Марыся цягне падпіўшага Максіма*).

М а р ы с я: А бойся Бога, чалавеча! Што ты ўжо з намі хочаш зрабіць? Нават да хаты ня ўступіш, а йзноў туды йдзеш?

М а к с і м: Ды нясу грошы... Я зараз аддаю. — Хіба-ж я не гаспадар?

М а р ы с я: О, гаспадар! Мы толькі праз такога гаспадара на жабракоў пярэйдзем. Чаму ты паневяраеш сябе і радню. Ды ты-ж калісь трохі шанаваўся, што табе сталася?

Максім (*апёршыся об стол*): Ціха, баба, маўчы! Я грошы прывёз і аддам. Я на цябе працую, я варты... Я сваю с'лу тут траціў, выматаў жылы (*прав сьлёзы*). А што я між вамі? Сірата! Няма каму заступіцца за мяне. Круглая сірата (*плача*).

М а р ы с я: Ты Бога ў сэрцы ня маеш. Паглядзі, вось трэба плаціць падатак, а ты так марнуеш.

М а к с і м: Я не парабак. Я на цябе працую.

М а р ы с я: Дык чаго-ж ты хочаш? Нават родныя дзеці цябе-б так не шанавалі, як яны шануюць.

М а к с і м: Прадам сваю палавіну і пайду ў сьвет. І буду ведаць, што на вас напрацаваўся, што для вас страціў сваю сілу.

М а р ы с я: Ды нават зараз ідзі. Каб так усюды быў Янкель, дык можа-б ты там трымаўся.

Максім: Ты мне Янкелям не дапякай! Разумееш?! Бо я злы! О, ты ня думай сабе, што я абы хто!... Спытай людзей!

Марыся: Ды знаем мы цябе, знаем. Прышоў у ваднэй сарочцы, і то ў парванай, цяпер ты спанеў на сіроцкім хлебе.

Максім: Маўчаць, кажу!... Давай есьці!... Ты са сваім панічом вельмі разумная. Яму каб толькі кнігі і газэты, а ты, айчым, працуй.

Сьцяпанка (*нясьмела*): Мама... дайце есьці!...

Марыся (*налівае дзьве міскі, асобна Максіму, а асобна двецям*): На вось буракоў, ад абеду асталіся: зараз буду варыць вячэру. Ня знала, што так скора прыедзеце з места.

Максім: Мне буракі?! Я з дарогі, намерзся, і ты мне халодны боршч даеш?(*адсувае міску, якая валіцца на зямлю і сам устае*). Я за вас вазьмуся, вы будзеце мяне забаўляць у рэшаце, вось што! Мамуся і сыночак! Акадэмік! Го, го!... (*раскідае са стала кніжкі. Двецї ўцякаюць да парогу*).

Аляксей (*увайшоў. Да Марысі, якая стаіць каля парогу*): Нават не заўважыў як ехалі... (*пабачыў Максіма*). А гэта што?

Марыся: Што? — дурэе айчым.

Максім: Хто дурэе?— (*кідаецца з кулакамі да Марысі*).

Аляксей (*заступае дарогу*): Стой, тата! На сяньня хопіць! Чаго вы хочаце?...

Максім: Ты, ты будзеш... (*кідаецца да Аляксея*).

Аляксей (*хапае яго за руку, ён тузаецца*): Кладзецеся спаць, калі напіліся, а не, то паклічу суседзяў і вас зьвяжам. Досьць ужо гэтага! Больш гэтага ня будзе! (*да Сьцяпанкі*): Ідзі па дзядзьку Радзюка, няхай прыдзе! (*Сьцяпанка выходзіць. Максім паспакайнеў*).

Аляксей: Або будзьце чалавекам і татам, а не, то лахі пад пахі і гайда за вароты!... Тут хата маей мамы і мая; а вы, або сядзеце ціха, а не,—то вас выганем на ўсе чатыры!,.

Максім: Так, так, за маю працу!

Аляксей: Ад сяньня ваша нага ў карме больш ня будзе! А не, то вас адтуль вынясуць! Чуеце?!

Марыся (*галосе*): Дзеткі, мае дзеткі! Нашто я вас крыўдзіла?

(*З а с л о н а*).



# ДЗЕЯ II

*(Сенажаць. Пакосы сьвежа выкашанай травы, вольная ваколіца. Вечарэе).*

## ЗЬЯВА I.

*(Грамада хлапцоў і дзяўчат. Паміж імі Аляксей і Рыгор. Адны сядзяць на пакосах, другія стаяць я косамі, граблямі ды віламі).*

Рыгор (*гукае за кулісамі направа*): Эй там, скарэй, Грыпіна-а-а! Ты й да рана не прыбярэшся.

I Парабак: Пацярпі, яна йшчэ не пазьбірала ўсіх жаб. А пакуль іх пазаганяе спаць, дык і сонца ўзойдзе з-за Ахрэмавага гумна. (*Сьмех*).

Ксеня: Дый сапраўды, што яна там копшкаецца (капаецца). Праз адну ўсе чакаюць. Да хаты ўжо пара даўно.

Аляксей: Ды чаго гэта вы прычапіліся да дзяўчыны? Яна пэўна кмін зьбірае. Ці-ж ня лепш тут пасядзець, ды пасьпяваць на сенажаці? Зараз месяц узойдзе з-за вёскі. Здаецца, што цэлую ноч тут-бы праседзіў.

Ксеня (*Павірае на Аляксея*): Эгэ, ды табе тут весела пасядзець і пачакаць, ці ня выйдзе дзяўчынка з блізкае хаты...

Аляксей: Ды якая там дзяўчына!

Ксеня: А твая Насьценька!

Аляксей: І чаго вы ўсе мне Насьцяй дакараеце? Ці-ж ня ведаеце, што я ёй не раўня? — Бо-ж „якая грэбля, такі стаў“ —

кажуць. У Насьці багацьце, коні, каровы, ей за першага багача замуж ісьці, ды не за мяне, што на заработках чужое кашу сена...

Ксеня: Э, знаемо. Няма на сьвеце такога, каторы-б адразу прызнаваўся ў каханьні. Ды яшчэ Аляксей! А тут і не агледзішся, як у царкве прачытаюць запаведзі, ды йшчэ і тады „не хачу і ня ведаю.“ —

Грыпіна (*нясе вязку кміну*): Ну вось і я! Гукалі, гукалі, думалі, што я ўтапілася. Хіба-ж вам так да дому карціць!

І Парабак: Я ўжо думаў, што ты там заначуеш.

Грыпіна: А што-ж думаеш,—спалохалася-б?!.. Ня страхава дачка!

І Парабак (*глядзіць ёй пад ногі*): Ды ты жабу натаптала!

Грыпіна (*адскочыўшы*): Ай-яй!...

І Парабак; Ды не! Я толькі хацеў даведацца, якая ты храбрая (*сьмех*).

Аляксей: Давайце, засьпяваем. Такая ноч, што песьня аж вырываецца з горла (*Сьпяваюць**).

Гэй ты Нёман, рака!
Ці ты думаў, ці сьніў,
Як сьлязу мужыка,
Ў свае воды лавіў?

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над соннай вадой
Сьпяваў песьні нуды.

Што надыйдзе пара,
Зьнемажэньне міне,
Адраджэньня зара
Над народам блісьне.

*) З дазволу аўтора падстаўляем песьні беларускія.

Што з балючых грудзей
Беларусі дзяцей
Над табой загудзе
Песьня вольных людзей?

Грыпіна: Ой, як тут прыгожа сьпяваецца. Адкуль той голас сам вырастае.

Ксеня: Гэта так з расою.

Рыгор: А ведаеце што, дзяўчаты: калі хочаце, то пайду на хутар і папрашу гэнага вялікага чаўна. Паплывем туды за заварот Там яшчэ весялей.

Ксеня: Ідзі проч. Ты нас завёз-бы няведама куды і табе было-б весела.

Рыгор: А-ей, хто-б там цябе шкадаваў, калі-б нават гдзе ў каўтобіну ўвалілася.

Ксеня: Знайшліся-б добрыя людзі. Але такім, як ты, дык гдзе-ж там шкадаваць!

Рыгор: Ды і без аднэй, ды яшчэ куртатай ёсьць на сьвеце многа сарок.

Ксеня: Дам я табе за куртатую сароку (*бяжыць за ім з граблямі і хоча ўдарыць*).

Рыгор (*Уцякае, хаваючыся за іншых, перабягае то туды, то сюды, урэшце хапае за граблі і прыцягівае да сябе Ксеню*): А пакажы, які ў цябе дзюб (*цалуе Ксеню*).

Ксеня (*вырываецца*): Пусьці, бо як цябе ўдзюбну, то вока падпухне (*вырываецца і ўцякае*).

Рыгор (*выцірае шчаку і глядзіць на пальцы*). Сапраўды тыкі ўдзюбнула. (*Дзяўчаты сьмяюцца*).

І Парабак: Ня бойся. Гэта толькі сьліна. Ксеня заўсяды так, як цалуе.

Ксеня: Сам сьлінка, дык думаеш, што ўсе такія.

## ЗЬЯВА 2.

(*З хутара прав кладку йдзе Трахім*).

Рыгор: А вось і Трахім. А ну каторую ўпадабае?

Трахім (*Падходзе бліжэй*): Добры вечар! Я думаў, што вы нанач выйшлі на сена.

Ксеня: Не, Трахім. Мы тут цябе чакаем цэлы дзень.

Трахім (*не дачуўшы*): Га? Жадаеце? Ад каго?

Ксеня (*нахіляецца да яго вуха*): Цябе чакаем.

Трахім: Ага! А навошта-ж я вам?

Ксеня: Грыпіна па табе сумавала.

Трахім: Га? Скавытала, кажаш? Хто? (*Усе сьмяюцца*).

Ксеня (*Голасна*): Па табе сумуе Грыпіна!

Трахім: Жартуйце сабе. Куды мне да Грыпіны.

І Парабак: Чаму не? Ты трохі глухаваты, а яна крыклівая — самы раз пара.

Грыпіна: А ты дурны — самы раз дружба.

Трахім: Служба? Служба? Я праз гэта й не жанюся, што цяжкая служба! (*Усе сьмяюцца*).

Ксеня: Ну ўжо годзі. Перастаньце сьмяяцца з Трахіма (*да Трахіма голасна*): Што там чуваць, Трахім?

Трахім (*Адыходзе з Аляксеем ў бок і штось яму гавора*)

І Парабак: Ну, пара да дому. Зара нам прынясуць вячэру.

Усе: А й сапраўды. Ужо позна. Пойдзем (*Выходзяць сьпяваючы. Астаецца Трахім Аляксей і Рыгор*).

Ой у лесе, пры даліне
У нас сталася бяда,
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
У нас сталася бяда.
Пры даліне, ў гушчары
Калыхаліcь камары,
Гэй, гэй. . . .
Дуб да дуба пахіліўся
Камар наш з дуба зваліўся
Гэй, гэй, ў лесе...

Трахім: (*ідзе назад у хутар*).

Рыгор (*да Аляксея*): Ну, бяры касу, пойдзем... А што табе казаў Трахім?

Аляксей (*задуманы*): Клічаць на хутар.

Рыгор: Ну, дык ідзі! Пойдзеш?

Аляксей: Ня ведаю!... Пасядзім яшчэ крыху. (*Сядаюць*)

Рыгор: Ну і як ты думаеш? Выйдзе што з гэтага? Мала часу... а ў нас ня вельмі ясна... Спачатку я рахаваў на старэйшых гаспадароў, ды — гэтых штось ня многа...І калі той народ прачнецца?

Аляксей: Будзе ўсё добра! Толькі ня трэба гарачыцца!

Рыгор: Аляксей, як я з табой, то маю надзею, а як астануся сам — прызнаюся табе, ня надта веру, каб мы справу давялі да мэты. За мала ёсьць нас, ды яшчэ такіх, што змагаюцца ў хаце з злыднямі. Вёска наша вялікая, але калі-б гэта зразумеў кожны. Не памногу, а было-б многа. Ды што-ж, колькі я ўжо нагаварыўся. Ведаю, што і ты дарма не сядзіш, больш за мяне тлумачыш; ды што-ж,—яшчэ насьмяхаюцца. На якіх дваццаць можна спадзявацца.

Аляксей: Думаю, што знойдзецца больш.

Рыгор: Пабачыш на зборцы. А ўрэшце, ці варта склікаць зборку, як няма для каго?

Аляксей: Калі-б і яшчэ менш было, а зборку рабіць трэба. На зборцы будзе амаль што ня ўся вёска. Мы не такія вучоныя, каб добра ўмелі прамовіць людзям да сэрца, але прыедзе дэлегат. Кожны пачатак цяжкі, а яшчэ ў нас! Спачатку здаецца, што лягчэй камень праглынуць, як штось добрага між людзьмі зрабіць, але і капля вады камень прадлубае. Ня трэба траціць ахвоту, а прытым і сілы да працы.

Рыгор: Некаторыя кажуць: „...што грошы даваць? Замнога іх там ужо набралася гэтых паўпанкоў і хочаць абдурыць сялян, зложым грошы, а пасьля нам зложаць хвігу пад нос!"—Вось цемната, ды годзе! Што ім не гавары, усё адно. Кажу ім, што гэта ўсё будзе запісана ў судзе, што ані адзін грош не прападзе, але гдзе там!

Аляксей: Не папрабаваўшы, ня можам пакінуць справы. Ужо многа ёсьць вёсак, што маюць свае коопэратывы і добра ў іх разьвіваюцца, а пэўна, што і там спачатку ня было лёгка.

Рыгор: А найгорш—Галаваты. Вото-ж біты сабака! „Гэтыя малакасосы — кажа — зараз захочаць сьвет дагары нагамі перавярнуць, ды далёка ім яшчэ да таго, каб яны ў вёсцы заводзілі парадкі" —Там у Янкеля цяпер вечна адбываюцца іхныя зборкі. Янкель зьнюхаў на што заносіцца, верціцца па ўсёй вёсцы. Кланяецца, каму можа. Цану на тавары абніжыў, па даўгі да нікога ня лазіць. Сваю шайку зьбірае. А найгорш, дык ужо з гэтым войтавым пісарам, Зьмітруком.

Аляксей: Няхай сабе. Спадзяюся, што ўсё будзе добра, і з гэтай надзеяй іду наперад. Ані Янкель, ані Галаваты, ані яго сынок нас не перамогуць, калі толькі мы ня зыйдзем з шляху. Сьвятло і праўда—цемру і вызыск перамагчы мусяць! Ты вось лепш заўтра схадзі да Радзюка, каб ён нам даў хаты ў нядзелю на зборку, бо я абвесьціў не запытаўшы яго. Ды я пэўны, што ён пазволе.

Рыгор: Э, калі-б такія ўсе, як Радзюк. Гэта чалавек. Няграматны, але разумнейшы ад многіх граматных.

Аляксей: З часам усе гэтакія будуць. Калі пабачаць, што мы іх да дабра клічам, да агульнага і іх уласнага, усе пойдуць за намі. Тут вось што. Да нядзелі трэба перагаварыцца з жанчынамі. Мы й забыліся аб гэтым. Ад іх вельмі многа залежыць. Не адна праклінае Янкеля з яго карчмой і крамай. Пашле мужа па соль, ці па што да крамы, а тут яму кум на сустрэчу, дык і пасядзяць сабе пры чарцы, а жонка чакае солі, а пасьля і сама йдзе. Шмат нам жанчыны памогуць... Адно толькі, Рыгорка, мяне смуціць: за што па зборцы мы заложым краму. Паі*) многа не прынясуць. Трэба грашэй, а гдзе іх даліха ўзяць?

Рыгор: І я ўжо над гэтым думаў. Калі-б я быў самастойным гаспадаром, то ўжо неяк-бы выкруціў.

Аляксей: А ў мяне як?.. Таксама!

Рыгор: Знаеш, брат, што я думаў, ды нават не адважуся табе сказаць. Ты з Насьцяю з хутара даўна знаёмы. Праўда?!

Аляксей: Толькі, што ты...

---

*) Пай гэта ўмоўленая складка ў коопэратыве.
Г. Ш.

Рыгор: Э, не, не кажы гэтак! Я знаю, што ты таішся з каханьнем да яе, і знаю, што яна прападае за табой.

Аляксей: Тры гады мінула, як я быў там, на хутары. А праз той час не гаварыў з ёй, хіба „добры дзень“, ці „добры вечар“. Ды і людзі больш плятуць, як ёсьць у сапраўднасьці.

Рыгор: Як-бы ты гэтак пагаварыў з ёй! Можа-б яна ў старога выенчыла пазычку. На гэткую справу!

Аляксей: Пацыганску ты мне радзіш? Ты пэўна хочаш, каб я на хвіліну прадаў сябе, сваё сэрца, за грошы для народнай справы?... Добра, сябе я магу прадаць. Але навошта я меў-бы завязаваць сьвет Насьці?... Ты ведаеш, якая яна! Я ніколі ня мог-бы ашуківаць яе, удаваць любоў, бо яна маёй ніколі ня будзе. Чуеш, Рыгор?! — Вось табе маё слова! І ведай, што тое, што людзі гавораць, што нібы я начамі на хутары прабываю, гэта ўсё няпраўда. Тры гады мая нага на хутары ня была. Чаму? — ты знаеш. Не хачу маме наперакор рабіць, бо мама добрая.

Рыгор: А я думаў...

Аляксей: Я прад табой за дзяўчыну бажыцца ня буду. Яна варта сто разоў лепшага ад мяне. Я знаю яе, як родную сястру. Восем гадоў там быў, як у сваёй хаце. А за гэтыя тры гады, хоць здалёку, але добра прыглядзіўся да яе жыцьця. Такой дзяўчыны ў цэлым сьвеце няма.

Рыгор: Дзіўны ты, Аляксей! Сам расхвальваеш, а дзяўчыны ня хочаш. Неяк дзіўна...

Аляксей: Знаю, што я для цябе дзіўны. Насьця багатая, праўда, але і не глядзела-б на тое, што я бяднейшы. І знаю, што

стары Ахрэм нічога-б ня меў проці мяне. Ды ты знаеш, які з мяне гаспадар. Ты сяньня колькі разоў мяне падкошываў? Табе касьба ніякай мукі не спраўляла, а з мяне ліўся пот. А стацца для кагось цяжарам, адразу наймаць парабкоў, я не хачу. Дзеля гэтага я нават ніколі не падумаю, каб яна была мая.

Рыгор: Дзіўна!... Дык ты яе ня любіш?

Аляксей: Як сястру, больш. І калі мне ў думках стаіць дзяўчына, якой павінны быць усе дзяўчаты, то гэтаю дзяўчынай ёсьць Насьця.

Рыгор: Ну, то хай-жа цябе ліха возьме з тваёю Насьцяю! Я цябе не разьбяру. І любіш і ня любіш. І прыгожая над усіх, і добрая і жаніцца ня хоча. Ты свайго дзівацтва з малых яшчэ гадоў не пакідаеш. А аб грашах на коопэратыву ты ўсё-ж можаш з ёй пагутарыць.

Аляксей: Як будзе магчымасьць, папрабую. Толькі ня так, як ты кажаш.

Рыгор: Дзеля мяне, як хочаш, але грашэй трэба, бяз іх мы ня дойдзем да ладу, а яшчэ асьмешымся. Ну ідзі-ж на хутар, калі клікалі. Хіба не дарма. (*Пайшоў*).

## ЗЬЯВА 3.

Аляксей: Дабранач! — (*Сам*) І чаго гэта мяне клікаў стары Ахрэм? Тры гады я з ім не гаварыў; неяк прыкра мне йсьці. Як маці выйшла замуж, то ня мог стары з гэтым прымірыцца. І добра ён радзіў: „Ня йдзі, Марыся, замуж, казаў, бо другі муж ня будзе ўжо такі, як Іван“— ды й мама цяпер каіцца, што не паслухала і сорамна ёй паказацца дзеду на вочы. Загневаўся стары на

нас. Абмінала мама хутар, абмінаў і я. Сумны дакор павеіў на нас з хутара, толькі Насьця, здаецца, такая самая, як была.—Але што гэта дзед задумаў? Чаго яму ад мяне трэба?... Ці можа будзе дапамінацца доўгу?.. Ды не! — Раней бы дамагаўся. У яго й так досіць дастаткаў, ды грашэй (*чухаецца ў галаве*). Нялоўка мне йсьці туды, але трэба. (*Ідзе ў старану кладкі*).

## ЗЬЯВА 4.

Ахрэм (*стукае кладкай*): Ты чаму, Аляксей, баішся падыйсьці да нашага хутара?

Аляксей (*цалуе яго ў руку*): Ды не, дзядуля, я так...—Толькі што трохі адпачыў...

Ахрэм: А мы з Насьцяй чакаем, а цябе як няма, так няма. Кажа Насьця: „Ідзі, дзедка, паглядзі, можа ён яшчэ ёсьць на сенажаці“. Выйшаў я за вароты, гляджу, аж тут тарчыць нешта над ракою перад месяцам... Ну, і што-ж? дакуль ты думаеш на нас гневацца?! Га? — Ворагі мы вам вялікія, праўда? На зло матку стары Ахрэм нагаварываў?

Аляксей: Дзядуля, ды я гэтаму не вінаваты.

Ахрэм: Дзед вораг, бо добра радзіў. Не паслухала дзеда, а цяпер што?... Знаю, знаю ўжо, што ў вас робіцца. Прайдзісьвет — прайдзісьветам. Хацела маці гаспадара, а цяпер, яшчэ мусіць яго пільнаваць, каб ня выносіў да Янкеля што-папала. Калі-б устаў нябожчык, ды паглядзеў, як маці ўстроіла ўсё па яго сьмерці, то йзноў-бы лёг у сырую зямлю. Эх, лёгкадушная яна, лёгкадумная. Ды найбольш мне цябе, Аляксей, шкада і гэтых малых дзяцей. Я й сам цяпер шка-

дую, што тады пры табе на матку пакрычаў, а ты сабе так моцна ўзяў гэта да сэрца, што забыў да нас і сьцежку. А можа й матка забараніла?... Ды вось бачыш, я тыкі ня вытрываў. Паслаў па цябе, а ўрэшце і сам прыйшоў. Бачыў цябе ўдзень паміж касцамі, думаў, што можа прыйдзеш.

Аляксей: Выбачце! Я й сам ня знаю, чаму я так. Я ніколі аб Вас дрэннага ня думаў, але думаў, што Вы загневаліся, ды не патрабуеце, каб я да Вас прыходзіў.

Ахрэм: А Насьця, дык усё цябе ўспамінае. Няраз просіць: „Пайдзеце, дзедку, перапрасеце іх“.

Аляксей: Дзякую Вам! І я ў думках заўсяды Вас успамінаю. Шкада мне было, ды што-ж рабіць...

Ахрэм: Ну, нічога, нічога! Прыхадзі да нас, як і раней прыходзіў. А Насьця нядзелямі такія прыгожыя кніжкі чытае... А як там у Вас дома?... „Вяснуеце“? Цяжка?...

Аляксей: Неяк даём раду. Хлеба сёлета было помала, але да новага перабудзем, толькі адна бяда...

Ахрэм: З п'яніцаю?... О, ведаў я, ведаў, што так будзе. Ды пацярпеце трохі, можа знойдзецца на гэта якая рада. Калі-б гэта бацькаўшчына... Ой, бяда з такім айчымам.

Аляксей: Тата мне часта сьніцца. Ды ўсё такі сумны. У падзёртай вопратцы.

Ахрэм: Няхай Госпад гасьціць яго ў сябе. Добры быў чалавек. — (*Памаўчаўшы*): Мне Насьця казала, што зьбіраецеся залажыць краму. Неяк так дзіўна завецца... каб усе на яе грошы злажылі і ўсе да яе мелі права...

Аляксей: А так, закладаем коопэратыву.

Ахрэм: О, дужа добрая і карысная справа. Памагай Вам Бог! І я туды дам нейкі паёк. Ужо досыць Янкель напіўся нашай крыві. Бачыш, як збагацеў.

Аляксей: Калі-б так людзі зразумелі, дык гэтага ліхвяра за месяц ня было-б у сяле.

Ахрэм: А, пара ўжо, пара завясьці нейкі парадак у вёсцы. Колькі пакражаў праз гэту карчму, а сьлёз, а гора... — Бярэцеся Вы, маладыя! І я памог-бы Вам, ды ўжо сілы ня маю, ды і чытаць не змагу, бо ўжо добра ня бачу. Тады!...

Аляксей: Вось, каб такіх было больш, як Вы, дзедка!... Ды дасьць Бог, што з часам усе зразумеюць... —

Ахрэм: Так, так, добрая і разумная справа! Яшчэ як твой бацька жыў, вось дык ён да гэтай справы быў гарачы. І ты ў яго ўдаўся.

Насьця (*кліча з хутара*): Дзядуля, дзядуля, хадзеце вячэраць. (*Голас чуваць што раз бліжэй*): Дзядуля-а-а. Хадзеце вячэраць.

## ЗЬЯВА 5.

(*Прыходзе Насьця*).

Ахрэм: Чаго ты так крычыш? Я йшчэ, дзякаваць Богу, добра чую.

Насьця: Добры вечар, Аляксейка! Чаму да нас ня прыйдзеш? У нас-жа лепш пагаварыць, чым тут над ракою.

Аляксей: Некалі другім разам. Сяньня пара ўжо дамоў. Позна.

Насьця: Заўтра сьвята. (*Да Ахрэма*): А там Трахім ня ведае, куды вясьці коні, ці за рэчку на скошанае, ці за садам наважаць...

Ахрэм: Пайду, ды распараджуся. А ты, Аляксей, прыхадзі да нас. Ня блудзі, ды ня мінай нас! А пра гэну абяцанку, што я табе даў, забыўся?... Я сам мусіў даглядаць. Ужо дзесяць пнёў маеш. Вось заўтра, пры сьвяце прыйдзеш, дык паглядзімо. Ужо й некалькі раёў было ў мяне. Прыйдзі заўтра, прыйдзі!..

Аляксей (*радасна*): Прыйду, дзедку, прыйду.

Ахрэм: А матцы скажы, няхай ня гневаецца, ды вельмі не бядуе... Можа яно йшчэ як... (*Пайшоў. Нейкі час Аляксей і Насьця стаяць моўчкі*).

Насьця: Аляксейка! Чаму ты такі задуманы? Як ты зьмяніўся за той час. Раней заўсёды быў вясёлы, а цяпер толькі думаеш, зьвесіўшы галаву.

Аляксей: Запытайся дзеда!

Насьця: Гэта ўжо было даўно. А колькі разоў я прасіла цябе, каб ты прыходзіў да нас, а ты нават не адазваўся. Нядобры ты для мяне. Помніш, як калісь было?

Аляксей: Тады мы йшчэ дурненькія былі.

Насьця: Але якія шчасьлівыя. Памятаеш, як ты мне кніжачкі прыносіў, як я ўчылася, як плакала, як ты чытаў „Кабзара“... — Добра, ох, як тады было добра. Бывала ў пасеку зойдзем... Пчолы зьвіняць... рай на зямлі, казаў ты... і пацямнеў пасьля той рай. Няраз выйду я цяпер туды, дзе мы абое чыталі і паплачу, ды так, што ніхто ня бачыць... А ты старонішся ад мяне, нехаця да мяне якое слова скажаш. Я й сама ня знаю, што табе зрабілася. (*Падыходзе бліжэй*) Аляксейка, брацейка! Скажы мне: у цябе

якоесь гора на душы? Чаго? Скажы! Можа я табе параджу?

Аляксей: Ня ведаю, Настачка, чаго ты ад мяне хочаш. Ты-ж знаеш, што досыць ужо забаўкамі жыць. Што год, то жыцьцё становіцца цяжэйшым.

Насьця: А можа ты закахаўся?... А скажы, скажы, якая яна, сьветлавалосая ці цёмнавалосая? Жаніцца, пэўна, задумаў?... Так, так, гэтулькі часу — тры гады... Я й забылася... Усяляк магло сэрца перарадзіцца... Што калісь было, забылася...

Аляксей: Ты толькі насьмяхаешся з мяне, Насьця.

Насьця: Не насьмяхалася я ніколі, а кажу праўду. Калісь ты быў іншы і я цешылася пры табе. Зьмяніўся ты і мне сьвет пацямнеў. Жыла я гэтыя тры гады тым, што раней пражыла з табою. Ты быў для мяне братам... Не! Больш, як братам... Найбліжэйшым з усіх людзей... Аж пасьля штось з табой сталася... Ня веру ў тое, каб народная праца забрала ў цябе ўсё на векі. Ты вернешся назад, праўда, мілы... Ты знаеш, як калісь казаў ты, прысягаў? — а цяпер чаму так?...

Аляксей: Настачка, рвеш ты маё сэрца і душу на двое. Многа, вельмі многа хацелася-б табе сказаць, пагаварыць з табою, я ўсё думаў, што ты мяне забудзеш... Ты-ж казала, што мы брат і сястра.

Насьця: Тагды мы былі сястрою і братам.

Аляксей: І далей гэтак будзем, Настачка.

Насьця: Зводзіш ты мяне. Каб я цябе забылася? Я ня тая вось травіца, што ты сяньня скасіў, а заўтра яна зьвяне, забудзец-

ца, дзе расла. Я ня з тых, што з сэрцам жартуюць.

Аляксей: Далёкія нашы дарогі, Настачка. Ты багатая, ня мной табе сьвет завязываць.

Насьця: Калі хочаш, то я выракуся свайго багацтва, пакіну дзеда, а з табой на край сьвету пайду, бо другога такога, як ты, няма на сьвеце. Чаго-ж ты баішся багацтва? Дзед з ахвотай цябе прыйме, а больш некаму перашкаджаць, я-ж сірата... А можа ты іншую маеш, толькі ня хочаш мне сказаць? — Скажы, Аляксейка! Я сьмерці сабе не зраблю, ані сьлёз ты маіх бачыць ня будзеш... Ой, я чую, што ты скрываешся перада мною, сказаць ня хочаш.

Аляксей: Калі ты хочаш ведаць, то табе скажу — ніколі я ня любіў больш нікога, як цябе і любіць ня буду.

Насьця (*прытуляецца*): Дык чаму-ж ты такі стаў? Хіба пачуў што ад людзей аба мне нядобрае? Думаю, што не.

Аляксей: Барані Божа! — А калі-б і пачуў, дык не паверыў-бы. Знаю цябе і ведаю, што ты не зьмянілася за гэныя тры гады. Але паслухай!... Да Вашага хутара трэба гаспадара, а не мяне. — Ты знаеш, да чаго мяне цягне, а як займуся гаспадаркай, ня будзе калі... А ўрэшце йшчэ нам, Настачка, людзі гадоў не рахуюць... Можа табе сьцюдзена, з рэчкі так холад цягне?...

Насьця: Не. Ты хочаш, каб я пайшла ад цябе? Надаела?

Аляксей: Не кажы гэтак! Ты адна, што мяне любіш і знаеш... (*Нясьмела*): Настачка, у мяне да цябе ёсьць справа.

Насьця (*скора*): Справа? Якая?

Аляксей: У нядзелю ў нас коопэратыўны сход.

Насьця: Я чула аб гэтым, а ты такі добры, што й не павядоміў мяне аб тым, што думаеце рабіць. Ня верацъ мне...

Аляксей: Нялоўка было самому. Казаў я Рыгорку, каб цябе павядоміў. Замала ў нас ёсьць ахвотнікаў да гэтага. А што найгорш, — няма грашэй. Тут самым розумам і воляй нічога ня зробіш. На пачатак грошы трэба. Можа-б ты пазычыла?... Думаю, што дзед згодзіцца...

Насьця: Пабачым! Ня сама я гаспадыня, але ведаю, што дзед не адмовіць.

Аляксей: А прыйдзеш на сход? Прыйдзі абавязкава!

Насьця: А ты прыйдзі заўтра да нас! Прыхадзі часта. А як ня прыйдзеш, то ні на сход ня прыйду, ані грашэй не пазычу (*сьмяецца*).

Аляксей (*падумаўшы*): Прыйду, як сонца зайдзе за „дуб“.

Насьця: Ага! Як сонца за „дуб“ зайдзе! — Каб ты ведаў, Аляксейка, як цяжка мне адну хвіліну без цябе перабыць! Як вымучыў ты мяне за гэтыя тры гады і цяпер штосьь ходзіш задуманы. Ды знаю я цябе: „Багатырка, гаспадара трэба, да кніжак цябе рве, да працы ў народзе“. А са мною ў дастатках, ці-ж не лягчэй будзе табе жыць? Ці я табе не памагла-б. Ды ты-ж мяне выхаваў для сябе і дзеля гэтага, каб табе памагаць у народнай працы. Але ты ня хочаш чужым дабром багацець. — Вось што ты думаеш і як быццам ад мяне адхіляешся. Баішся людзкой гутаркі. — Ды не, я веру, што ты будзеш маім. Або твая, або нічыя!

Гэтых маладых гадоў, што ў сонцы-радасьці з табой правяла, я не падарую нікому. Ты мне сьвет адчыніў. Або ты, або ніхто!... Ну, бывай, Аляксейка, мне ўжо да хаты час.

Аляксей: Ня йдзі йшчэ, Настачка! Мне так добра з табой.

Насьця: Дык прыхадзі сюды часьцей. (*На адходзе*) Памятай: Або ты, або ніхто (*выходзе*).

Аляксей (*хвіліну глядзіць у сьлед за ёй, пасьля ідзе ў другую старану*).

ЗЬЯВА 6.

(*На сцэне нейкі час пуста. На дварэ штораз больш цямнее. Крэкчуць жабы. Гдзесь адазвалася сава. Зьмітрок, пасьля Янкель*).

Зьмітрок (*падкрадаецца з кіём*): Няма! (*Заглядае ў другі бок*): І тут няма. (*Прыглядаецца ўдаль*): Вось, здаецца ідзе. Дам я табе заляцацца! (*Хаваецца за капец і гатуецца „пачаставаць“ надходзячага палкай*).

Янкель (*падкрадаецца з другой стараны капца*): Няма! Ну?! (*Галасна кашляе*).

Зьмітрок (*выбягае з-за капца*): А, папаўся ты мне! (*Б'е палкай Янкеля*). Маеш, маеш!... (*Янкель хаваецца за капец*).

Янкель (*крычыць*): Ай-вай! Гевалт! Зьмітручок! Ды што робіш!

Зьмітрок (*прыглядаецца*): Ах, гэта вы, Янкель! А я думаў, што гэта гэны здыхляк — Аляксей.

Янкель (*ойкае*): Ой, але-ж вы мяне перапужалі. Калі-б за капец не схаваўся, то ўжо быў-бы труп.

Зьмітрок: Чаго-ж вы, пане Янкель, сюды зайшлі, ды яшчэ па ночы.

Янкель: Ну, як то чаго? Па вас, Зьміт-

ручок. Ваш тата быў у мяне, ды й кажа: „Так і так — Зьмітрок, кажа, пагнаўся за Аляксеем, бо даведаўся, што ён з Насьцяю на сенажаці. (*Ойкае*): Ой баліць рука, бадай цябе, гэтак мяне сьпіразаў.

Зьмітрок: Перапрашаю вас, пане Янкель. Ну, памыліўся. Прапала. Цяпер ужо я яму дам і за сябе і за вас. Пайду па яго (*хоча йсьці*).

Янкель: Чакайце, мае даражэнькія. Я да вас маю гешэфт. Я дзеля гэтага сюды й прыйшоў.

Зьмітрок: Што такое кажаш?

Янкель: Ну, памалу, не сьпяшайся. Вось сядзем тут пад капец. Пагаворым. (*Зьмітрок сядае. Янкель прымасьціўшыся каля яго*): Я чуў, што Аляксей туды, да Ахрэма, на хутар заглядае.

Зьмітрок (*гразіць палкай*): Некалі яго адтуль вывязуць фурай. Я яму йшчэ паламлю ногі. Я яму пакажу, што знача войтаў сын.

Янкель (*усьцішаючы*): Цс-цс-цс...Але-ж вы, Зьмітрок, заўзятыя. Агонь — не хлапец. Люблю такіх, ой, як люблю. Але вы, Зьмітрок, так не рабеце. Наб'іцё яго, або і сусём забіцё, а пасьля сьледзтва, суд, турма... Ня выпадае для войтавага сына.

Зьмітрок: Няхай будзе, што хоча. Я свайго не дарую. А і вам будзе лепш.

Янкель: Ой, каб ён прапаў той лайдак, той паскуднік, той вучоны пурыц... Але да яго ня гэтак трэба брацца. Я вам, Зьмітручок, параджу так, што яго ня будзе, а вам волас з галавы не зьляціць. Ня ён вас, а вы яго ў турму пасадзеце. (*Устае, ідзе ў два бакі сцэны, глядзіць, а пасьля сядае, нахіляецца да*

*Зьмітрука і шэпча)*: Трэба так зрабіць, каб ён апынуўся злодзеям.

Зьмітрок: (*не разумеючы*): Калі-ж ён ня п'е, ні ў карты ня гуляе. —

Янкель: Ну! Ці-ж гэта трэба піць гарэлку? Трэба ўночы забраць крыху з тэй коопэратывы, як яе заложаць, а ён каб быў злодзеям.

Зьмітрок (*дагадаўся*): Ага! Так! Вось, гэта добра. Ха ха ха! Вельмі добра. Мы гэта патрапім. А я маю сваю хэўру...

Янкель: Нашто хэўра? Тут ня трэба хэўры. Вы з Максімам—вось і хэўра. Вы скажаце Максіму, каб ён прыйшоў да мяне. Разумееце? Абодва разам прыйдзеце.

Зьмітрок (*разьмысьляе*): Гм! Ага! Вось як. Эх, і розум у вас, пане Янкель. Ня дарма кажуць: жыдоўская галава. (*Праз хвіліну*): Добра. Я скажу Максіму і мы прыйдзем. (*Зрываецца*): Ну, час да дому. Пойдзем.

Янкель: Разам ня пойдзем. Яшчэ можа хто нас пабачыць. Вы ідзеце, Зьмітрок, а я пасьля. (*Зьмітрок выходзе*).

Янкель (*зацірае рукі і злорадасна сьмяецца*): Гэта гіт. Гэта гіт. А мы яго... у турму. Так, так, пане Аляксей. У турму. Хі хі хі! (*выходзе ціхачом*).

Заслона.

# ДЗЕЯ III.

(*Лес. Вялікія дрэвы. З боку сцэны зямлянка. Каля яе пілы і сякеры. Каля зямлянкі гарыць вагонь, над вагнём гаршчок. Каля вагня сядзяць лясныя работнікі. Воддаль, на калодзе, сядзіць бледны, змучаны Аляксей*).

## ЗЬЯВА I.

(*Дрывасекі іграюць у карты, Аляксей падпёрся рукою, думае*).

I. дрывасек: А вось-жа цяпер мая возьме! (*Кідае карту і адсоўваецца ад ігры*)

II. дрывасек: А каб цябе! Што? надаела йграць?

I. дрывасек: А кіньце к чорту гэтыя карты! Васіль, ці ёсьць там яшчэ што ў пляшцы?

II. дрывасек: Э, дык ты да абеду ўсю і вылакчыш! А мы, што-ж?

I. дрывасек: Ну, дык пійце і вы! Навошта-ж яна створана? Усё роўна! Ці піў, ці ня піў, а ногі некалі здубеюць. Ці-ж ня так?

III. дрывасек: А ўжо-ж.

I. дрывасек: Бяздомнаму, абы сяньня добра, а пра заўтра й ня пытайся!..

II. дрывасек: Дык ідзі ўжо прынясі, а то гавора да нас прамову, а гарэлкі не дае.

I. дрывасек (*выносе з зямлянкі пляшку*): Ну, але вы гаварэце, што хочаце, а мне каб гэта была поўная. У ёй ёсьць і бацька, і маці, і дом, і кроўныя і мая жонка. (*Перахіляе і п'е*).

III. д р ы в а с е к (*выррывае ў яго з рук*): Ды ўжо досыць! Уп'ешся, дык і сякеры ня ўдзержыш у руках. (*П'юць па чарве*).

II. д р ы в а с е к: Гэй, а ты там, Аляксей! Чаго ад нас уцёк? Хадзі, вып'ем! Ты нешта яе не далюбліваеш. (*Сядаюць да картаў*).

А л я к с е й (*нібы прачхнуўшыся*): Пійце на здароўе. Мне ня хочацца! Я й так, як п'яны. За вялікі мой сум, каб яго запіць,.. Я й сам хацеў-бы яго забыцца, заліць, але гарэлкай яго не зап'еш. Вы шчасьлівыя, бо ніхто вас не абязчэсьціў, не наліў атруты ў ваша сэрца. А мне, ох! Боль у грудзёх, а сэрца сталася каменям. Ня ведаю, ужо і лік згубіў, ад якога часу мая чэсьць патоптана, калі спынена мяне ў дарозе. Я ўжо забыўся... А я толькі добра хацеў і праўды... О, калі-б я мог забыцца свой боль...

II. д р ы в а с е к: Аляксей, кінь журбу. Кажаш, абдзерлі цябе з чэсьці. А ты плюнь на іх. Ня будзеш гэтак цэлымі днямі журыцца і біць кулаком у галаву. Людзі — не ваўкі, адразу не зьядуць, а па кавалачку грызуць. А ты плюнь на іх і выпі брат — палягчэе!

А л я к с е й: Не, дзякую. Ня буду. Не палягчэе мне ад гэтага. (*Памаўчаўшы, да сябе*): І што я каму благога зрабіў?... Абакралі коопэратыву, да маей хаты парабілі сьляды, а ключ знайшлі рана пад дзьвярмі крамы. Добра абдумалі, людаеды, каб мяне зрабіць злодзеям. І хоць суд мяне звольніў, але ня звольніла насьмешка і пагарда цэлай вёскі: „Вось чаму ён жадаў так коопэратывы! Каб забраць людзкі грош і прапіць сьвятамі“... (*Праз хвіліну*): І як яны там наладзілі справу? Каб хаця не перасталі, а далей вялі працу

Рыгор і Насьця! Бо шкада разпачатай працы. Няхай я ўжо прападу, зьняможаны, абсьмеяны, але каб хоць добрая справа не прапала.

Ох, як цяжка цярпець зьнявагу за тое, у чым я нявінны!... Ніхто да мяне сьледу ня знойдзе. Пайшоў я на дабравольную катаргу, бо ня мог сьцярпець наруганьня. О, Божа, дай мне сілу перанесьці ўсё гэта! Ты адзін маю нявіннасьць знаеш... А можа яшчэ Насьця і Рыгор. О, мае вы прыяцелі, калі-б вы бачылі мяне ў гэтых лахманох і як я зьмяніўся!... Жабраком зрабіла мяне людзкая злосьць. — Эх, эх, калі-б вярнуўся мой супакой, каб сном быў той час, што дзеліць мяне няшчаснага, ад ціхага шчасьця і народнай працы!... Каб хоць пачуць, што там робіцца! Ці й на хутары ўжо жоўтыя дрэвы, як вось тут дубы пажоўклі?... Ці сьпявае Насьця ў садзе над рэчкаю?... А можа ўжо замуж вышла? Забылася мяне, бо я „злодзей“? І як там маці з айчымам дае раду? Ці й далей п‘яніца марнуе наша дабро? Цяжка бяз весткі ад сваіх, але йшчэ цяжэй было-б мне зносіць наруганьні ад знаёмых людзей.

II. дрывасек: Стойце, браткі, закіпеў гаршчок! Абедаць пара! (*Адстаўляе в вагня гаршчок*).

III. дрывасек: Няхай астыне!

IV дрывасек (*старъ*): А я курыць так хачу, што й абедаць ня маю ахвоты. Каб так хто зьбегаў у карчму. Пакуль астыне абед, можна вярнуцца. Схадзі, Дзяніс! Пойдзеш?

I. дрывасек: Калі йсьці, то пайду. Дайце грошы! (*Выходзе*).

Аляксей: Пачакай, Дзяніс, ты бяжыш у карчму?

I. дрывасек: Ага!

Аляксей: Зрабі ласку, запытайся у Абрама, ці ня быў гэтымі днямі той падрадчык з чыгункі з майго места. Запытаешся?

I дрывасек: Ды ўжо-ж запытаю, калі так хочаш. (*Пайшоў*).

IV дрывасек (*прысядае да Аляксея*): А што, Аляксей, есьці хочацца?

Аляксей: Ня надта.—Але на доўга так не залягайце, бо пара брацца за калоды. У суботу скупая будзе палучка.

IV дрывасек: Э, хто-б гэтым журыўся! I так цэлага лесу не перарэжам. Ты чаму ўсё так сядзіш воддаль. А сяньня ты яшчэ сумнейшы. Чаго ты? Па хаце тужыш?

Аляксей: Дзядзька! Ды я-ж вам расказаваў сваё гора. Вы знаеце, што ня дзеля заработкаў я сюды забрыў.

IV дрывасек: Бо ты дурны! Я, быўшы табою, плюнуў-бы на ўсё... Журыцца, што хто абакраў краму, а людзі на цябе паказваюць... Няхай паказваюць, Шыла з мяшка вылезе. Дрэнная справа ніколі не затоіцца. А табе ня трэба было з арышту йсьці сюды. Трэба было вярнуцца дамоў, а то яшчэ горш цябе падазраюць. Я так ніколі-б не зрабіў.

Аляксей: Ды вы добра кажаце. I я сам знаю, што дрэнна зрабіў. Ды мяне тады такая нуда агарнула, так абрыд сьвет, што я чуць пад цягнік ня кінуўся. Неяк я сябе перамог. Стаў за местам і думаю: куды мне йсьці? Ці варочацца ў вёску, ці йсьці, куды вочы глядзяць, забыцца, што я вырас у гэтай вёсцы, што ў мяне радня, што я там пакінуў сваю моладасьць, сваё шчасьце?... Націснуў я шапку на вочы і пайшоў у другую старану, якая завяла мяне аж сюды. Такі жаль і злосьць мяне тады ўзяла, што я ня

чуў, ня ведаў, ці ехаў хто каля мяне, ці йшоў... І сам ня ведаю на каго жаліўся. Віноўнікаў майго гора не магу згадаць. І дагэтуль грызуць мяне штодня туга і жаль.

IV д р ы в а с е к: Ды пакінь, хлопча! Ты сам сябе забіваеш. На цябе ўжо страшна глядзець, гэтак састрашнеў. Далей працаваць ня зможаш. Што з табой будзе?... Адкідай ад сябе ўсе думкі пра тое, што сталася!

А л я к с е й: Ці-ж можна так адкінуць, забыцца?... Каб я знаў, праз каго я гэтак мучуся!...

IV д р ы в а с е к: Ды Бог з табой! Кажу табе, забудзься. У нядзелю пойдзеш са мной у вёску, да маёй хаты. Там разарвешся. Ня сумуй! Як ты ня вінаваты, дык нашто табе журыцца?

А л я к с е й: Я сам быў-бы рад — але цяжка! Дзякую дзядзьку, што мяне адводзіце. Калі-б ня вы, дык я і тут ня выбыў-бы.

IV д р ы в а с е к: Выпі трохі гарэлкі, дык нічога думаць ня будзеш. Сапраўды папрабуй!

А л я к с е й: Ня піў я яе з малку і цяпер не хачу. І вам раджу ня піць: гэта атрута. Быдлё робіць з чалавека. (*Дрывасекі пачынаюць сьпяваць, IV-ты пайшоў да іх*).

А ў бары ў бары
Тры дарожанькі.
    Гэй, гэй, гэй!
    Тры дарожанькі.
Тудою ішлі
Тры салдацікі.
    Гэй, гэй, гэй!...
Што к матачцы йдзе,
Песеньку пяе.

Гэй, гэй, гэй!...
Што к татачку йдзе,
Ў скрыпачку йграе.
Гэй, гэй, гэй!...
Што к мачысе йдзе,
Моцненька плача.
Гэй, гэй, гэй!
Моцненька плача.

(*Пад канец песьні ўваходзе І-шы дрывасек*).

І дрывасек: Го, го! Аляксей! Знайшлі сьцежку да цябе! Вось, бачыш?... (*Дае пісьмо*)

Аляксей (*радасна кідаецца да яго*): Што?... Пісьмо?... Ды як?!...

І дрывасек: Той падрадчык, аб якім ты казаў спытацца, прывёз да Абрама. Казаў, што нейкая дзяўчына з тваё вёскі,—ці не твая гэта (*падміргівае*)— нeяк ад яго даведалася, дзе ты, і вось перадала пісьмо...

Аляксей: Няўжо Насьця? Божа мой!..
(*Ідзе ў старану і чытае*).

IV дрывасек: Ану, хлопцы, бярэцеся да працы. Я йшчэ люльку дакуру, а пасьля вас даганю. (*Усе сядаюць каля гаршка і ядуць*).

Аляксей (*прачытаўшы пісьмо*): О, Божа! Настачка! Зорачка мая! Ці-ж Тваё пісьмо верне мяне дамоў?... Выйшла мая нявіннасьць на верх? О, дзякуй-жа Табе, Божа, што скончылася мая мука!... Я вярнуся дамоў, у родную вёску... І чаму я не вярнуўся з арышту дамоў? — Ня мучыўся-б тут гэтулькі. (*Глядзіць на пісьмо, чытае*).

„Я знаю, што ты мучышся там душой і целам, ды мы з Рыгоркам ведалі, што ты нявінаваты. Мы на ўсе бакі кідаліся, каб знайсьці віноўніка, ды ўжо годзі“. — О, доб-

рыя, шчырыя прыяцелі!... „Варочайся зараз дамоў, як толькі дастанеш маё пісьмо, а калі не паверыш маім словам, то мы з Рыгоркам прыйдзем да цябе. Калі-б ня той падрадчык, што ў вашым лесе бывае, дык не даведаліся-б мы, дзе ты жывеш. Варочайся зараз, мой галубок, бо цяжка без цябе жыць!, Ня менш ад цябе і я зазнала мукі... Колькі я па табе наплакалася, раскажа табе усё, як вернешся, наш садок. А дзядуля ўсё охкае і шкадуе цябе. А колькі было радасьці, як я даведалася, дзе ты прабываеш. Цэлая вёска цябе шкадуе. А Зьмітручок Галаваты і твой айчым ужо сядзяць у турме. Здаецца, што іх там было болей. Твая мама таксама прыходзіла да нас, як даведалася, што ёсьць аб табе вестка. Гэтак плакала...“

IV дрывасек: Гэй, Аляксей! А ты што так зачытаўся ў пісьмо, што й есьці ня хочаш? Хадзі, бо грамада аднаго не чакае.

Аляксей (*вясёлы*): Ежце! Мне ўжо й есьці ня хочацца.

IV дрывасек (*падходзіць*): А што там? З дому дастаў пісьмо? Што пішуць?

Аляксей: Скончылася мая журба, дзядзька. Дараблю з вамі да суботы, вазьму грошы і разьвітаюся з вамі.

IV дрывасек: Ну, як?

Аляксей: Усё выйшла на верх. Злавілі зладзеяў.

IV дрывасек: Ды як? Хто злавіў?

Аляксей: Праз вартаўніка. Адзін вартаўнік бачыў, як яны дабіраліся. Але яны яму загразілі: цяпер толькі выказаў.

IV дрывасек: Вось бачыш! А ты так журыўся. Я-ж табе казаў, што няма чаго грызьціся. Яшчэ добра, што даўжэй не цягнулася, а то высах-бы на трэску. Але йдзі

есьці, бо да работы трэба брацца... (*Аляк сей есьць адзін. Дрывасекі бяруць сякеры, ды ачэсываюць калоды*).

IV дрывасек: А ну, хлопцы! Вось гэтыя дзьве абчэшым ды на казлы з імі. Трэба хоць сяньняшнюю кашу адрабіць!

I дрывасек: Ага, адробім, калі ў суботу жыд грошы ня зьменша!

IV дрывасек: Ды мы сяньня йшчэ не са дзьве парэжам. Ідзеце, Дзяніс з Аляксеем, ды абгладзьце гэну калоду, над воўчаю ямаю. А як скончыце, дык паклічце — паможам да казлоў прынесьці.

I дрывасек: Мы самі, дзядзька, прынясём. Яна не цяжкая. (*Аляксей і I дрывасек вышлі*).

II дрывасек: А каб ужо як найхутчэй тая нядзеля прыйшла! Рукі млеюць, сякеры ня могуць утрымаць...

IV дрывасек: Э, бач! Захацеў лёгкага хлеба! Я ўжо тут працую больш як дваццаць гадоў, а супачынку не чакаю. (*Сякуць. Праз хвіліну чуваць крык.* I дрывасек *з тэй стараны, куды пайшоў з Аляксеем*): Ай-ой-ей! Хадзеце сюды! Аляксея калода прыціснула! (*Дрывасекі бягуць у тую старану*).

IV дрывасек: Вось табе! Чаму-ж я сам ня йшоў?... (*Пабег*). (*За сцэнай, быццам здалёку, чуваць людзкі гоман. Праз некалькі хвілін уносяць бледнага Аляксея. Аляксей стогне*).

IV дрывасек (*да другіх*): Ану, хлопцы, давайце сьвіткі падсьцяліць! (*Дрывасекі сьцелюць сьвіткі і кладуць Аляксея.*) Нашто-ж вы бралі гэту калоду? Вось няшчасьце! Магла на сьмерць прыдушыць!

I дрывасек: Ды мы яе ня бралі! Яна

ляжала адным канцом над ямай, дык мы думалі яе перакруціць. Аляксей палез у яму, я крануў, а яна перакруцілася, ды на Аляксея. Я думаў, што ўжо па ім, але пакуль вы надбеглі, дык ён адчыніў вочы.

IV дрывасек: І што мы яму ў лесе парадзім? Да вёскі так далёка! Бяжы каторы да сяла, дайце знаць войту, няхай зараз прышле фурманку. (*Кленча каля Аляксея*): Дзяржыся, хлопча. Ты малады — ачуняеш.

Аляксей (*стогне*): Ой, ой! Настачка мая! Мама! Ужо не пабачыць мне вас!

*Заслона*



## ДЗЕЯ IV.

(*Садок. З боку хата. Пад хатай лаўка. На лаўцы сядзіць Марыся*).

### ЗЬЯВА 1.

Марыся (*пастарэла; сумна*): Ой, Божа, Божа! Гэткі прыгожы дзянёк, гэтак прыгожа сонейка сьвеціць, так весела на сьвеце, а маё беднае дзіцё вун там (*паказвае галавою на хату*) мучыцца. Сыночак мой, сыночак!... І што ты каму зрабіў, што цябе так людзі спаняверылі. Ты толькі ім дабра хацеў, а яны цябе пазбавілі здароўя. Ох, калі-б я знала, ад чаго ты папепшаеш, на край-бы сьвету пайшла, душу сваю аддала-б... Але, дзе ўжо тых шукаць лекаў! Дохтар сказаў: «тут — кажа — хіба яго моладасьць паможа, бо лекаў на гэта няма». О, гора-ж маё! Завяў мой хлапец, як на марозе кветка. Дзе-ж у яго ўзяць тэй сілы, каб перамагчы цяжкое недамаганьне?!

### ЗЬЯВА 2.

Рыгор (*уваходзе, гавора пацiху*): Сьпіць?

Марыся (*патакуе*): Сьпіць. Як заснуў яшчэ з вечара, то дагэтуль не прачхнуўся. Ужо цэлы тыдзень вось так: усё сьпіць і сьпіць. Я ўжо баюся, можа гэта й дрэнна... Ану-ж так калісь засьне...

Рыгор: Ня думаю, цётка. Мне здаецца, што гэты сон яму варочае сілы. Яшчэ калі-б пачуў смак у ядзе.

Марыся (*махнула рукой*): Дзе там. А вось стаіць расол з курацiны — ані пакаштаваў. Учора толькі трохі выпіў гарбаты і ўсяго.

Рыгор: А калі-б, цётка, яго на двор вынесьці. Вось як калісь мы тут зрабілі.

Марыся: Калі-ж пасьля надта быў аслаблены. „Мама — кажа — мне нешта галава круціцца, як п'янаму". І гарачку дастаў большую. А брэдзіў-жа ў гарачцы, што аж было страшна. Усё толькі Насьця, ты ды коопэратыва. „Сынку — кажу яму — ня бойся, усё будзе добра". А ён усёроўна: „Я нявінен, дальбог нявінен. Я ня ўкраў. Настачка, ты мне ня верыш? І ты, Рыгорка, таксама?! Ой, Божа, Божа..." Я яго ўспакайваю, а ён увесь час толькі аб гэтым.

Рыгор (*сумна*): Уелася яму крыўда ў душу і не дае супакою. Вы яго, цётка, прыводзьце да памяці, а то без патрэбы мучыцца, бедны.

Марыся: Ужо ад трох дзён ня брэдзе. Толькі што вельмі сонны, а як прачхнецца, дык зараз-жа пытаецца пра вас. „Дзе Насьця? Чаму ня прыйдзе? А Рыгорка? Паклічце, мама, Рыгорку!"

Рыгор: Усё-ж кліча? Дык тады зараз і пасылайце па мяне.

Марыся: Ды я й пасылаю, толькі не заўсёды ты бываеш дома.—А знаеш, ён ня толькі хлапоціцца аб вас, але й аб сваім ворагу. Можа — кажа — ён паправіцца па кары.

Рыгор: Ды ён усіх любіў, толькі яму зрабілі крыўду. Ужо ня дзіўлюся гэным цёмным сілам, каторым ён стаяў на перашкодзе, але некаторыя прыяцелі й тыя былі адвяр-

нуўшыся ад яго. Цяпер каюцца, але што з таго.

Марыся. О, ніколі не забудуся, як тады раніцай амаль ня ўся вёска сабралася пад коопэратыву: „Аляксей злодзей, Аляксей нас падмануў!“ Лепш-бы я хацела, каб пада мною зямля расступілася, як слухаць такую зьнявагу свайго дзіцяці. А ён?! Стаяў белы, як крэйда, вочы загарэліся і толькі тросься, быццам у трасцы.

Рыгор. Мы з Насьцяй заўсёды верылі ў яго нявіннасьць. А той Ілько, што тады вартаваў, такі выказаў. Сумленьне яго кранула.

Марыся: Ах, як я тады цешылася, як мой Янка прыбегды крыкнуў: „Мама!—кажа, Аляксей прыехаў!“ Я выбегла — гляджу, а яго зносяць з возу. Такі бедны, такі скрыўджаны... (*Плача*).

## ЗЬЯВА 3.

Насьця (*ўваходзе*): І ты тут, Рыгорка?! Сьпіць?

Марыся: Сьпіць.

Насьця (*хоча ўвайсьці ў хату*): Пайду пагляджу, як яму.

Рыгор: Настачка, ня йдзі. Яшчэ пабудзіш. Няхай сьпіць.

Насьця (*становіцца каля сьцяны, плача і выцірае хустачкай вочы*).

Марыся: Ня плач, Настачка. Ужо досіць ты наплакалася, бедная.

Насьця: Ох, як мне, цётачка, ня плакаць. Прыйду — пагляджу на яго: ніякай папраўы.

Рыгор: А я кажу, што ёсьць паправа, Вы, жанчыны, заўсяды горшае бачыце. Пабачыце, што Аляксей паправіцца і яшчэ так

на яго вясельлі (*моргае да Насьці*) патанцуем, што аж зямля будзе стагнаць.

Насьця (*жыва*): Рыгорка, ты верыш у гэта?... Ці можа толькі пацешыць хочаш?!

Рыгор: Веру, дальбог, веру! Думаеш, Насьця, што толькі цябе і цётку хачу пацешыць?! А я то што? Хіба-ж ня былі мы найшчырэйшымі прыяцелямі, шчырымі братамі. З маладых гадоў усё разам і разам. Кожны дзень, кожную гадзіну мае думкі каля яго.

## ЗЬЯВА 4.

(*За сцэнай гоман. Уваходзяць сяляне, тры ці чатыры. Між імі Радзюк*).

Радзюк (*падходзе першы*): Як маецеся?

Марыся: Дзякую, нічога, як вы?

Радзюк (*паказвае на рэшту сялян*): Прыйшлі да вашага Аляксея.

Марыся (*зьдзівіўшыся*): Да Аляксея?! Чаго?...

I Селянін (*нясьмела*): Мы прыйшлі (*мнецца*), мы хацелі-б перагаварыць (*заікаецца*), як-бы тут сказаць...

Радзюк (*перабівае*): Ды што тут шмат гаварыць; прыйшлі перапрасіць яго ад імя коопэратывы.

II Селянін: А-га, а-га...

I Селянін: Ды нібы гэтак.

Марыся (*усьцешыўшыся*): Настачка, Рыгорка — чуеце?! Вось будзе радасьць для Аляксея, як прачхнецца. (*Да сялян*): Ён яшчэ сьпіць, а я... (*да Рыгора*): Можа-б пабудзіць?!

Рыгор: Не, цётка. Ня трэба. Няхай сьпіць. Гэта можна зрабіць другім разам.

Радзюк: І я думаю. Няхай сьпіць. Яму сон больш патрэбны, як мы. Але вы, Марыся, перадайце яму нашы словы.

Марыся: Перадам, перадам, як толькі прачхнецца.

Аляксей (*з сяней прарываным голасам*): Ня трэба перадаваць, бо я ўсе чуў.

Марыся, Насьця і Рыгор (*кідаюцца ў сені*): Аляксей!

Аляксей (*зьяўляецца ў дзьвярох хаты, падтрымліваны маткай і Рыгорам. Насьця з-заду, усьміхнуўшыся*): Дзякую вам... грамадзяне... Дзякую... за ваша да мяне спачуваньне. (*да маткі*): Вось тут, мама, я сабе сяду... на лаўку.

Марыся: Ой, сыночак, чаго-ж ты ўстаў, ды яшчэ сам. Ты-ж такі яшчэ слабы...

Аляксей (*з трудам гавора*): Хочацца, мама, на сьвет, між людзей... Гэткі прыгожы дзень... чую галасы... а тут душна ў хаце... (*да сялян*): І добра, што ўстаў. Вашыя словы найлепшае для мяне лякарства. Я чую, як мне вось тут (*пакавае на грудзі*) лягчэе, як выпагаджваецца маё неба...

І селянін (*стары, з сівыми вусамі*): Аляксей, сынок! Мы прыйшлі да цябе, каб ты дараваў нам крыўду, якую мы табе зрабілі. Так неяк сталася... Мы ня ведалі... Думалі, што гэта цябе чорт скусіў...

Аляксей (*горка ўсьміхнуўшыся*): Чорт скусіў!... Хіба-ж я на такога выглядаю?!

ІІ Селянін: Ня дзівіся, Аляксей. Калі-б ты яшчэ тады з суду да хаты вярнуўся, то можа-б мы інначай пра цябе думалі. А то ты некуды пайшоў і ўсякі казаў: «Калі-б ён ня быў вінаваты, то не ўцякаў-бы з вёскі!" Але пасьля, калі выйшла праўда наверх, зразумелі, што цябе цяжка скрыўдзілі, пазналі, якая сьвятая для цябе справа — коопэратыва. І нам сорамна, што мы не паверылі Рыгору і Насьці. (*Хвіліна маўчаньня*).

I Селянін: Я дык адразу хацеў ісьці да цябе, як толькі ты прыехаў. Бачыш, я шмат старэйшы за цябе, а хацеў пахіліць прад табой галаву і прасіць у цябе выбачэньня. Да дабра ты нас вёў, а мы табе вось як горка адудзячыліся.

Аляксей (*радасна*): Даражэнькія! Вашы словы напаўняюць маю душу шчасьцем. Дзякую вам, дзякую з шчырага сэрца, за тую радасьць, якую вы мне зрабілі. Яна ў сто разоў вынагарадзіла тыя думкі, якія я спазнаў. Ах, калі-б я мог яшчэ працаваць сярод вас! Чую, што для такіх грамадзян варта жыць і трудзіцца.

Марыся (*да I селяніна*): Дзядзька, чуеце? Яму голас быццам зьмяніўся. Ад таго часу, як яго прывезьлі, ён ані разу так здарова не гаварыў, як цяпер.

I Селянін: Ня сумуй, будзе здаровы. Супакой — вялікі лек. Сам Бог яго творыць для сваіх выбраных. Бог міласэрны не забярэ нам яго. Я стары, няграматны, але бачу, што ўсьміхнецца доля нашаму народу, як будзе больш гэтакіх, як ён, Аляксей. Год толькі, як коопэратыва ў нас, а колькі прынясла добрых зьмен. Вось Янкель з сяла выбіраецца. Прасіў мяне, каб яму знайшоў купца на хату.

Аляксей (*хоча ўстаць, але Рыгор яго садзе назад на лаўку*): О, Божа, што я чую?! Няўжо-ж гэта ўсё праўда? Няўжо-ж гэта ня прыгожы сон... Буду здаровы, чую гэта. Чую, як мае грудзі ўзмацняюцца ў сілу і бярэць ахвота да жыцьця.

Марыся (*плача*): Божа, калі-б Іван дажыў да гэтага часу...

## ЗЬЯВА 5.

Максім (*Абадраны, брудны паказваецца ў дзьверцах. Спачатку хоча вярнуцца назад, але пасьля нясьмела становіцца воддаль ад усіх*).

Усе (*зьдзіўлены*): Максім!!!

Аляксей (*глядзіць з дакорам у бок Максіма*:) Вярнуўся (*апускае галаву*).

Насьця: Божа, які-ж бедны!

Марыся (*глядзіць то на Аляксея, то на Максіма*): Чаго ты йшчэ хочаш?

Максім (*падходзе бліжэй*): Марыся, ня бойся, я ня прышоў па тое, каб вы мяне прынялі назад. За вялікі мой грэх і за вялікая правіна, каб я мог спадзявацца прабачэньня. Няма для мяне сярод вас мейсца. Там, у сырых мурох вастрогу, пабачыў я сваю душу, як у люстры і плюнуў сам сабе ў вочы. Цяпер з торбай на плячох пайду ў сьвет і можа адпакутую свой грэх (*разглядаецца, а пабачыўшы Аляксея на лаўцы, падае прад ім на калені*): Аляксейка! Гэты раз, гэты адзіны раз, пазволь мне назваць цябе сынам. Аляксейка, сынок! Даруй свайму айчыму хоць часьціну яго грахоў. (*Марыся і Насьця плачуць, рэшта апусьцілі галовы, Аляксей сядзіць і ня ведае што рабіць*).

Аляксей: Устаньце... Што вы?! Ня можна-ж так...

Максім: Не, ня ўстану, пакуль ты мне не даруеш. Я не хачу, як той Марка Пракляты, насіць грэх у сваёй торбе. Даруй мне, Аляксей, сынок! (*Зварочваецца да Марысі*): І ты мне, Марыся, выбач!

Аляксей: Я вам, тата, выбачаю. І мама і ўсе мы выбачым. Але вы ўстаньце. У нас сяньня гэткі радасны дзень...

Максім (*выцірае сьлёзы. Устае*): Я ня маю права цешыцца разам з вамі. Я нягодны гэтага. Мне ўжо лягчэй. Вось бачу: ты прыходзіш да здароў'я. Цяпер ня будзе мяне душыць камень вось тут (*паказвае на грудзі*), што я ня толькі злодзей, але й душагуб. Бывайце здаровы! І ты Аляксей... і ты Марыся... і вы ўсе, грамадзяне (*адходзіць*).

Аляксей: Тата, куды йдзіцё? Мама, вярнеце яго!

Марыся (*бяжыць за Максімам. Крычыць за кулісамі*): Максім, вярніся! Аляксей хоча, каб ты астаўся пры нас... (*праз хвіліну вяртаецца*): Не хацеў, толькі рукою махнуў.

Радзюк: Нічога, Марыся, няхай ідзе. Дараваны грэх—як завязаная рана: ня крывавіць, але часу трэба, каб выгаілася. (*Да Аляксея*): А ты, Аляксей, ня баўся, хутчэй здаравей і нас на вясельле прасі!

Рыгор (*весела*): А мяне ў дружбу!

Насьця: А мяне?!

Аляксей (*глядзіць па яе в любоў'ю*): А цябе?... за маю маладую, найдаражэйшую!...

Дзед Ахрэм (*выходзіць з-за хаты*): Вось так трэба было даўно зрабіць. А то вярцеў, вярцеў. Тое... сёе... Але такі давярцеўся (*Усе сьмяюцца. Насьця кідаецца дзеду на шыю*).

*Заслона.*

**КАНЕЦ.**